Цака асобнага нумару 20 грошау.

# НАШ ВОДКЛІК

## АДНАДНЁУКА

Вільня, Серада 16-га сакавіка 1927 г.





## Вынікі гаспадарчае перабудовы.

Хутка пасьля маёнага перавароту, калі марш. Пілсудскі завязываў такія мілыя адносіны з прадстаўнікамі абшарніцтва на знамянітым зьезьдзе ў Нясьвіжы,—радыкальная беларуская прэса адзначала тыя вынікі, якіх трэба спадзявацца ад новага гаспадарчага курсу „маёвага“ ўраду. Курс гэты, апіраючыся на абшарніцкіх сфэрах і ў аснову ўсяе дзяржаўнае гаспадаркі кладучы інтарэсы вялікіх зямляўласьнікаў, зусім натуральна мусіў ісьці па шляху, вельмі непажаданым для польскае прамысловасьці. Больш таго: газэты адзначалі з глыбокім пераканацьнем, што Польшчу чакае поўны заняпад прамысловага жыцьця, ды што гэтак яна абернецца ў рынак збыту для вырабаў англійскае прамысловасьці.

Ясна, які вынік гэтага мусіў быць для вялізарнае арміі работнікаў у Польшчы. Ясна, што такая зьмена ў гаспадарчым жыцьці дзяржавы павінна адбіцца перадусім на працоўных места. — І вось жыцьцё найлепш пацьвярджае гэтыя прадбачаньні.

Газэты паведамляюць аб вялізарнай хвалі работніцкіх забастовак у Польшчы. Сьледам за агульнай забастоўкай усіх гутнікаў Польшчы распачата забастоўка ў найважнейшай галіне польскае прамысловасьці—ткацкай. Забаставалі ткацкапрадзільныя фабрыкі ў Лодзі, у Белай і Бельску на Сьлёнску. І навет правая прэса прызнае, што падстава забастовак—*чыста эканамічная*, навет самі фабрыканты ня маюць адвагі закідаць забастоўшчыкам „бальшавіцкія чырвонцы“ і іншыя падобныя „хадзячыя закіды“.

Эканамічны крызіс у польскай прамысловасьці дасьпявае. Чарод — за вугальнымі капальнямі, якія ўжо прымушаны абмяжоўваць сваю вытворчасьць з прычыны адсутнасьці збыту. І калі йшчэ зімой унутраны рынак забіраў значную колькасьць вугальля, дык з вясной і гэтае спажываньне вугальля шмат паменшыцца.

Прамыслоўцы займаюць непрымірымае становішча. Урадавая прэса тлумачыць гэта „незалежнымі ад іх волі прычынамі“.—Але-ж у гэтым і трагізм польскага жыцьця, што яно само ня ў сілах залечываць свае раны, што дзеля захаваньня ў ёй „сацыяльнае раўнавагі“ не памагае ані „добрая воля“ валадаючых клясаў, ані—сіла дзяржаўнае ўлады...

Рэфарматары польскага гаспадарчага жыцьця ад слоў перайшлі ўжо да дзела. Польшча мае ператварыцца ў выключна земляробскі край, і за гэта павінны заплаціць сваім дабрабытам — работнікі фабрык і заводаў.

Калі нейкі рух у дзяржаве выклікае агітацыя тэй ці іншай „вывротовай“ партыі,—гэта рэч, з якой яшчэ можна змагацца і перамагаць. Калі-ж хваляваньне выклікаюць варункі жыцьця, якіх зьмяніць нельга, — дык барацьба з такімі рухамі — *безнадзейная.*

## Забастоўка.

### Агульная забастоўка ў прадзільна-ткацкай прамысловасьці.

8 сакавіка зраніцы распачалася агульная забастоўка ў валакністай прамысловасьці ў ва ўсей Польшчы.

У Лодзі спынілі працу ўсе фабрыкі, за выняткам толькі 3 — 4, спаміж якіх адна толькі — вялікая. Настрой бастуючых усюды вельмі бадзёры. Спакой, дысцыпліна і ўстрыманасьць работнікаў — поўныя.

Было некалькі спробаў штрэйкбрэхерства, але бастуючыя работнікі хутка іх зьліквідавалі, застыдзіўшы здраднікаў работніцкай справы.

У Бельскім раёне (на Сьлёнску) таксама ў той-жа дзень забаставалі ўсе фабрыкі. У Згежу, Пабіяніцах, Озоркове, Здунскай Волі, Канстантынаве, Пётркове, Белхатаве — праца на фабрыках спынена зусім. У Тамашове, апрача часткі вялікіх фабрыкаў, таксама праца спынілася.

Забастоўка мае выключна эканамічны грунт дый справакавана папросту прамыслоўцамі, якія—на дамаганьні павялічэньня платы на 25 проц.—адказалі папросту зьдзекам, прапануючы—розным групам работнікаў розныя дадаткі — ад 1 да 6 проц. (ведамая тактыка працадаўцаў, каб пасварыць работнікаў розных катэгорыяў ды гэтым – разьбіць супольны фронт забастоўкі)...

### Пасрэдніцтва ўраду не ўдалося.

**У Лодзь надовячы прыяжджалі прадстаўнікі міністэрства працы і вялі перагаворы з фабрыкантамі ў справе ліквідацыі забастоўкі.**

**Сцьвярдзіўшы абсалютную няўступчывасьць лодзкіх прамыслоўцаў, канфэрэнцыя — пасьля трох гадзінных гутарак — спынілася, і дэлегаты ўраду вярнуліся ў Варшаву, прызнаўшы сваё пасрэдніцтва ў гэткіх варунках бязмэтным.**

### Пашырэньне забастоўкі.

Да забастоўкі ткачоў у Лодзі маюць далучыцца трамваі. Працаўнікі трамваяў дамагаюцца павялічэньня платы.

Істнуе пагроза забастоўкі сярод мэталістаў, паньчошнікаў, шаўцоў, дворнікаў і працоўнікаў некатарых мястовых устаноў.

Бастуе мястовы тэатр.

### Пагроза забостоўкі ў сернікавай прамысловасьці.

6 сак. адбылася канфэрэнцыя дэлегатаў сернікавых фабрыкаў Польшчы, на якой аднагалосна была прынята пастанова — заявіць прамыслоўцам ультыматыўныя трэбаваньні ў справе падвышкі платы. Калі прамыслоўцы не дадуць да 14 сак. адказу, — будзе абвешчана агульная забастоўка ў-ва ўсіх сернікавых фабрыках Польшчы.

Як ведама, сернікавая прамысловасьць у Польшчы знаходзіцца пад манаполіяй заграінічнага капіталу, дык трэба думаць, што барацьба работнікаў будзе асабліва цяжкая...

### Напярэдадні забастоўкі ў Беластоку.

Ткацкія работнікі ў Беластоку пастанавілі падтрымаць лодзкіх таварышоў.

### „Партыя п. Бартля арганізуе штрэйкбрэхераў“.

„Роботнік“ паведамляе, што ў памяшчэньні „Клюбу Працы“ (партыі п. Бартля) адбылося сабраньне розных работнікаў, якіх адзін з павадыроў „Клюбу“ намаўляў, каб яны ламалі забастоўку ткачоў ды прадзільшчыкаў. „Вестка гэтая выклікала вялікае і зразумелае абурэньне сярод валакністых работнікаў. Пэпээсы абураюцца на тое, што — „партыя п. Бартля“ (таксама — „партыя працоўных“...) робіць пэпээсам тое самае, што пэпээсы камуністам!





## Разбурываньне беларускіх гімназіяў.

Пасьля заяваў міністра асьветы Добруцкага, які ў бытнасьць сваю ў Вільні абяцаў „заапекавацца“ беларускімі гімназіямі ў Заходняй Беларусі, — віленскае кураторыум пачало канкрэтныя крокі дзеля „падняцьця на належную вышыню“ гэтых гімназіяў.

Так, надовячы віленская беларуская гімназія атрымала ад куратара паведамленьне, што пяць вучыцялёў „з прычыны неблаганадзёжнасьці“ мусяць быць звольнены з канцом гэтага школьнага году. Імёны іх: І. Савіцкі, Заморын, Паўловіч, Сіняўскі і Міхалевіч. У чым іх „неблаганадзёжнасьць“ — трудна навет дагадацца: у палітычным жыцьці прымае чыннае ўчасьце, здаецца, адзін толькі грам. Савіцкі, які зьяўляецца старшынёй Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні. Імёны ўсіх другіх абсалютна ня зьвязаны ні з якой „палітыкай“. Грам. Міхалевіч „праштрафіўся“ хіба тым, што рэжысаваў вучнёўскія спэктаклі...

Адначасна радашкоўская гімназія атрымала паведамленьне, што дадзеная ёй канцэсія канчаецца з канцом гэтага школьнага году, — дый там рад вучыцялёў прызнаны „неблаганадзёжнымі“.

## У Сойме.

### Справа рэкруцкага набору.

На адным з апошніх паседжаньняў Сойму разглядалася, паміж іншым, справа рэкруцкага набору.

Дакладчык пас. **Мончыньскі** пачаў з таго, што запрапанаваў прыняць закон аб наборы аднадушна—бяз ніякіх гутарак, адзначыўшы, што „некаторыя цыфры павінны наагул астацца тайнымі, а аб іншых можна гаворыць і публічна“. З тых цыфраў, аб якіх „можна гаварыць публічна“, адзначым агульную лічбу рэкрутаў, якая дасягае агулам бязмала паўмільёна. Свой даклад пас. Мончыньскі закончыў заявай, што польскія партыі ня будуць прымаць учасьця ў дыскусіі, бо лічаць, што справа абароны дзяржавы не выклікае ніякіх сумліваў.

І запраўды. Ледзь пасьпеў пас. **Назарук** (украінец) прачытаць сваю дэклярацыю аб адʼемных адносінах ягонага клюбу да закону аб рэкрутчыне, як марш. Сойму загадаў галасаваньне прапазіцыі эндэкаў аб спыненьні дыскусіі. І ўсе польскія партыі—пачынаючы ад пэпээсаў управа—згадзіліся адмовіцца ад магчымасьці выказаць публічна свой пагляд на гаспадарку ў ваеннай галіне Польшчы. Пасьля гэтага так-жа аднадушна польскімі галасамі быў прыняты і самы закон. Проці закону падалі галасы нацыянальныя меншасьці—апрача жыдоў, Нез. Партыя Хлопска і камуністы.

Тым часам якраз у гэты мамэнт вайсковыя справы ў Польшчы высунуліся на першы плян, і аб іх трэба і можна шмат думаць і гаварыць. Мала таго, што на чале ўраду стаіць міністар вайсковых спраў маршалак Пілсудскі, што военныя назначаюцца як на становішчы міністраў (прыкладам унутраных спраў), так і ваяводаў і старастаў. Імкненьне ўраду—правясьці „вайсковае прыспасабленьне“ сярод усяго насяленьня гаспадарства, каб кожная гміна, кожнае мястэчка мелі свайго інструктара і аружжа дзеля вайсковага вучэньня. У школах уводзіцца „фізычнае узгадаваньне“ моладзі, якое мае на мэце перадусім падрыхтаваць будучых жаўнераў. Усюды ладзяцца стрэльбішчы — дзеля прывучаньня моладзі да карыстаньня аружжам. І хаця ня ўсё гэта яшчэ праведзена законамі Польшчы, аднак, праводзіцца ў жыцьцё, аб чым сьведчаць чысьленыя прэсавыя весткі. Гэтак, надовячы пісалася аб пасольскай інтэрпэляцыі ў справе львоўскага старасты, які разаслаў гмінным камісарам свайго павету загад аб выдзяленьні з грамадзкае зямлі ад 2 да 4 маргоў дзеля мэтаў фізычага ўзгадаваньня. У газэце „Новы Час“ № 22 наказывалі, што ў Расьне Рускай у тым-жа павеце, на падставе сказанага загаду, гмінны камісар даў 2 маргі пожні, 200 злотых гатоўкай з грамадзкіх грошы, дый яшчэ дом, у якім зьмяшчаюцца украінскія культурныя ўстановы... А стараста ў Перамышлянах (у Усходняй Галічыне), які аднačасна зьяўляецца старшынёй павятовага камітэту фізычнага ўзгадаваньня, зьвярнуўся да ўсіх украінскіх культурна асьветных устаноў з „просьбай“, каб з усіх спэктакляў рабілі адлічку на мэты гэнага камітэту...

Ясна, што справы вайсковыя пры сучасным курсе палітыкі ўраду вельмі глыбака закранаюць усё грамадзкае жыцьцё, — дык было шмат аб чым думаць і гаварыць Сойму. Але—апрача „меншасьцяў“ і сялянскаработніцкіх партыяў — ніводная з польскіх партыяў не адважылася абгаварываць і—барані божа!—крытыкаваць тое, што праводзе ў жыцьцё марш. Пілсудскі... „Новая сыстэма“ ўлады ў Польшчы ўжо даволі крэпка ўкаранілася, і Сойм запраўды ж істнуе ўжо адно толькі дзеля віду!

### Зьмены выбарнага закону ў Сойм і Сэнат.

На паседжаньні канстытуцыйнай камісіі Сойму, якая працуе над 4 праектамі Хіены і Пяста ў справе зьмены выбарнага закону (да парляманту), дакладчык камісіі эндэк **Гломбіньскі** запрапанаваў апрацаваны зборны праект, у якім сабраў кветкі ды ягадкі ўсіх 4 праектаў соймавай рэакцыі. Але, можа, найбольш характэрным у гэтым зборным праекце польскай рэакцыі — ў справе абмяжаваньня ў краі дэмакратызму, а перадусім — палітычнай роўнапраўнасьці няпольскага насяленьня „крэсаў“—зьяўляецца тое надзвычайнае даверые, якое гэтая польская рэакцыя мае да сучаснага „дэмакратычнарадыкальнага“ (інакш—„абшарніцка-пэпээсаўскага“) ўраду п. Мэйштовіча-Морачэвскага. А іменна: зборны праект п. Гломбіньскага прапануе Сойму — замест тасаваньня доўгай парляманцкай валакіты, — усю справу зьмены выбарнай „ардынацыі“ аддаць у рукі ўраду, даўшы яму дзеля гэтага шырокія паўнамоцтвы, у тым ліку—права выдаць новы выбарны закон шляхам дэкрэту п. Прэзыдэнта. Сойм меў бы толькі—паводле праекту п. Гломбіньскага—даць ураду пэўныя абязываючыя ўказаньні,—напрыклад: каб паслоў ня было больш за 300 (а менш — дык „бардзо прошэн“: ведама-ж, кожны „лішні“ пасол адымаецца ад прадстаўніцтва работнікаў і сялян!); сэнатараў мае быць ізноў чацьвертая частка лічбы паслоў — дык ужо ня 110, але ўсяго толькі 75. Далей праект прадбачыць шырокія паўнамоцтвы для ўраду ў вызначэньні новых выбараў.

Урад дагэтуль неяк устрымліваўся ад учасьця ў працах камісіі, але заявіў рашуча, што ён вельмі цікавіцца справай зьмены ардынацыі да парляманту. Трэба думаць, што ўрад апраўдае цалком высокае даверые соймавай правіцы і „цэнтру“, з якімі ўсё бліжэй уваходзіць у фактычнае паразуменьне...

## У Польшчы.

### Абʼяднаньне „крэсавага“ заканадаўства.

Рада Міністраў апрацавала праект дэкрэту п. Прэзыдэнта ў справе ўрэгуляваньня так-званага „праўнага стану“ ў Усходніх ваяводзтвах. Праект высьняе, якія з істнуючых законаў маюць надалей мець абязываючую сілу на „крэсах“. Справа йдзе аб вялізарнай масе законаў і дэкрэтаў, якія пакінулі розныя панаваўшыя ў нас улады — расейская, акупацыйная нямецкая і польская—у часох ваенных, з якіх дэкрэт выбраў—пэўна-ж усё найлепшае...

### У справе амэрыканскай пазыкі для Польшчы.

Газэты (польскія) пішуць, быццам амэрыканская пазыка для Польшчы (трэба думаць—пад гарантыяй Англіі) мае шансы на пасьпех. Быццам амэрыканскія банкіры прапануюць Польшчы 50 мільёнаў даляр. на санацыю валюты (ўкрапленьне злотага), дый яшчэ 50 мільён. дал. — на капітальную раз-

